На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
Якуб Колас

№ 176 (528)
Чацвер, 1 кастрычніка 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

Lintec Computer. Газета сверстана на компьютерах фирмы "ЛИНТЕК"

ООО Экопроммеханизм. ЭЛЕКТРОТЕХНИКА от "А" до "Я". Тел./факс:(017) 283-65-70, 269-52-13, 268-03-95.

Пейджинговую связь редакции обеспечивает МОБИЛКОМ пейджинг-система (017) 222-46-51 (017) 222-46-52

К&К ЛАМПЫ КАБЕЛЬ СВЕТИЛЬНИКИ ПРОЖЕКТОРЫ ЭЛЕКТРООБОРУДОВАНИЕ 8-(017)-213-70-13 Кальченко & К°

## Адзінокія пенсіянеры без вітамінаў не застануцца

Улады беларускай сталіцы выдзелілі амаль 12 мільярдаў рублёў на закупку бульбы і агародніны для адзінокіх пенсіянераў і інвалідаў. Гэта азначае, што прыкладна 16 тысяч пажылых мінчан могуць не турбавацца аб нарыхтоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі на зіму. Гэтыя факты паведаміў журналістам на прэс-канферэнцыі, якая адбылася 29 верасня ў сталічнай мэрыі, начальнік аддзела сацыяльнай абароны Мінгарвыканкама Уладзімір Локіс. Паводле яго слоў, гэта акцыя прымеркавана да Міжнароднага дня пажылых людзей, які адзначаецца 1 кастрычніка. І яна — не адзіная. У многіх палацах культуры і кінатэатрах сталіцы ў гэты дзень адбудуцца сустрэчы кіраўнікоў адміністрацый раёнаў з ветэранамі і пенсіянерамі, святочныя канцэрты. У бясплатным рэжыме будуць працаваць кінатэатры "Камсамолец" і "Радзіма". Акрамя таго, саветы ветэранаў плануюць арганізаваць бясплатныя юрыдычныя кансультацыі. Як стала вядома карэспандэнту БелТА, пажылымі сёння могуць назваць сябе каля 400 тысяч мінчан — прыкладна кожны чацвёрты жыхар беларускай сталіцы. Згодна са статыстычнымі данымі, у Мінску цяпер налічваецца і каля 100 доўгажыхароў.

**Аксана АСПІШЧАВА, БелТА.**

## 1 кастрычніка — Міжнародны дзень пажылых людзей







## У Гродне назначаны новы епіскап

У дзень святога Міхаіла ў гродзенскім Фарным касцёле адбылося богаслужэнне ў сувязі з назначэннем у мясцовую епархію яшчэ аднаго епіскапа. Рашэннем папы рымскага Іаана Паўла II, якое было аб'яўлена ў храме, абвешчаны былы настаяцель Навагрудскага прыходскага касцёла святога Міхаіла Архангела Антон Дзямянка. Ва ўрачыстасцях прымалі ўдзел папскі нунцый у Беларусі Дамінік Грушоўскі, архіепіскап Маскоўскі Тадэвуш Кандрусевіч, кардынал Казімір Свёнтак, прадстаўнікі замежнага духавенства, а таксама мясцовай праваслаўнай царквы і ўлад, шматлікія вернікі. Як паведамілі БелТА ва ўпраўленні Гродзенскай каталіцкай епархіі, новаму епіскапу 38 гадоў. Родам ён са Стаўбцоўскага раёна, вучыўся ў духоўнай семінарыі і акадэміі тэалогіі. Да апошняга назначэння праслужыў 18 гадоў у Навагрудскім прыходзе.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ, БелТА.**

### Надвор'е

**1 і 2 кастрычніка на тэрыторыі рэспублікі захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. 1-га ва ўсходніх раёнах — кароткачасовы дождж, 2-га ўначы па паўднёвым захадзе, удзень — на большай частцы тэрыторыі — дажджы. Вецер 1-га няўстойлівы, слабы, 2-га — паўднёва-ўсходні, 6—11 м/с. Тэмпература паветра ўначы +2...+7; 1-га ў заходніх і цэнтральных раёнах, 2-га па ўсходніх раёнах — замаразкі да 0...-2; удзень — +8...+13.**

*Заявление Хартии'97*

## Об экономической ситуации в Беларуси

Граждане многострадальной Беларуси в очередной раз оказались обманутыми. Губительная политика белорусских властей, направленная на международную самоизоляцию и одностороннюю интеграцию с Россией, обернулась крахом для экономики нашей страны. Обвал курса белорусского рубля, вызванный финансовым кризисом в Российской Федерации, привел к многократному повышению цен на большинство товаров, опустошению или полуопустошению прилавков и полному обнищанию белорусского народа.

С экранов телевизоров на белорусов ежедневно обрушиваются потоки лжи о небывалых успехах и экономическом росте. На самом деле тысячи предприятий разорены, вклады населения в банках обесценились. Простые граждане уже не в состоянии покупать многие продукты и лекарства. Разрушенная российская экономика может похоронить Беларусь под своими обломками.

Все это — результат некомпетентности руководства страны. Президентом Беларуси является бывший директор отсталого совхоза Лукашенко; главой Национального банка — строитель Прокопович; вице-премьером по вопросам науки, культуры и образования — полковник Заметалин; министром иностранных дел — бывший секретарь по идеологии Российской коммунистической партии Антонович.

Белорусский президент испортил отношения со всеми цивилизованными странами, спровоцировав бессмысленный конфликт вокруг резиденций послов в поселке Дрозды. Поэтому рассчитывать на экономическое сотрудничество и международную финансовую помощь при нынешней власти белорусам не приходится. Тоталитарный режим не получит никакой поддержки.

Оргкомитет Хартии'97 заявляет, что в нынешней критической ситуации страну могут спасти только чрезвычайные меры:

**1. Немедленная отставка президента Лукашенко и его окружения.**

**2. Формирование коалиционного правительства национального спасения, состоящего из компетентных политиков и профессиональных экономистов.**

**3. Обращение к международным организациям о предоставлении неотложной гуманитарной, финансовой и технической помощи белорусскому народу.**

**4. Проведение свободных демократических выборов во все органы власти.**

## Украіна надае вялікае значэнне паглыбленню традыцыйна добрасуседскіх адносін з Беларуссю

Аб гэтым заявіў прэзідэнт Украіны Леанід Кучма на праведзенай у Кіеве сустрэчы з прэм'ер-міністрам нашай краіны Сяргеем Лінгам. Гэта сустрэча завяршыла праграму двухдзённага візіту ў суседнюю дзяржаву ўрадавай дэлегацыі Беларусі. На ёй былі прааналізаваны стан і перспектывы развіцця двухбаковых адносін. Адбыўся абмен думкамі наконт эканамічнай сітуацыі ў нашых краінах, а таксама вострых міжнародных праблем, сярод якіх — фінансавы крызіс у Расіі і яго ўплыў на нацыянальныя эканомікі абедзвюх дзяржаў. Леанід Кучма акцэнтаваў увагу субяседніка на тым, што ўзаемным інтарэсам дзвюх краін адпавядае хутчэйшая ратыфікацыя беларускім парламентам двухбаковага дагавора аб дзяржаўнай граніцы. Вырашэнне гэтага пытання, падкрэсліў ён, садзейнічала б пашырэнню гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва паміж украінскімі і беларускімі прадпрыемствамі, якое на сённяшні дзень не адпавядае патэнцыяльным магчымасцям бакоў. Адзначалася, што ўрады дзвюх краін завяршаюць падрыхтоўку праграмы доўгатэрміновага эканамічнага супрацоўніцтва паміж Украінай і Беларуссю. Сяргей Лінг выказаў удзячнасць прэзідэнту Украіны за паслядоўную і актыўную падтрымку Беларусі на міжнароднай арэне.

**БелТА.**

### Сітуацыя

## З рыбалкі — на групу інваліднасці

Незвычайнае судовае разбірацельства правёў нядаўна Гарадоцкі раённы суд. За прымяненне электралавільнай устаноўкі на возеры Жодзень на лаву падсудных селі браканьеры У.Касенка, А.Лігецкі, а таксама далучыўшыся да іх на вадаёме інвалід I групы А.Ткачоў. У адносінах да апошняга справа, зрэшты, была спынена, бо чалавек падпадаў пад закон аб амністыі. Гэтым аматарам рыбалкі за некалькі гадзін удалося з дапамогай электраўстаноўкі злавіць некалькі соцень буйных шчупакоў, акунёў, лінёў і іншых рыбін, якія заважылі у кошце амаль на 17 мільёнаў рублёў. Аднак аматараў забароненай лоўлі затрымалі на месцы супрацоўнікі Віцебскай міжраённай інспекцыі рыбаховы.

Абодва гора-рыбакі сваю віну прызналі поўнасцю, а У.Касенка нават добраахвотна ўнёс грошы ў памеры 6,2 мільёны рублёў у частцы кампенсацыі прычыненага ўрону. Перажыванняў і сораму гэтаму чалавеку хапіла настолькі, што з-за стрэсу ён перанёс глыбокі інфаркт і стаў... інвалідам II групы.

Звыш за 4 тысячы прыгожых азёр налічваецца ў прыдзвінскім краі. Ва ўмовах глыбокага крызісу, каб зарабіць сабе грошы на жыццё, многія ідуць на рызыку і свядома парушаюць устаноўленыя правілы рыбнай лоўлі. Толькі летась на Віцебшчыне было заведзена на браканьераў каля 4 тысяч спраў. Сёлета сітуацыя яшчэ больш абвастрылася і за 8 месяцаў інспекцыя рыбаховы зафіксавала 2620 выпадкаў лоўлі забароненымі сродкамі, да адказнасці прыцягваліся 2909 грамадзян. У парушальнікаў канфіскавана 54 лодкі, 1309 сетак, 24 невады, звыш за 1,5 тысячы іншых прыстасаванняў для лоўлі рыбы, а яшчэ браканьеры былі вымушаныя заплаціць штрафаў на 1 мільярд 54 мільёны рублёў.

**Уладзімір ШЫК.**

## Быць ці не быць АЭС у Беларусі?

У сярэдзіне кастрычніка ў Нацыянальнай акадэміі навук адбудзецца дыскусія, якая паставіць усе кропкі над "і" ў зацяжной спрэчцы наконт будаўніцтва ў Беларусі атамнай электрастанцыі. Пакуль жа над гэтым пытаннем ўпарта працуе створаная па даручэнні Савета Міністраў камісія па ацэнцы мэтазгоднасці развіцця ў нашай краіне атамнай энергетыкі. І чым бліжэй тэрмін прыняцця канкрэтнага рашэння, тым больш гарачыя дэбаты. Прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі змаглі пераканацца ў гэтым, пабываўшы на праведзеным у Нацыянальным прэс-цэнтры пасяджэнні "круглага стала". У ім прынялі ўдзел вядучыя айчынныя спецыялісты па пытаннях энергетыкі — намеснік старшыні Камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Руслан Ігнацішчаў, прафесар Георгій Лепін, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Васіль Несцярэнка, загадчык лабараторыі Інстытута праблем энергетыкі Аляксандр Міхалевіч. Калі сцісла перадаць сутнасць праведзеных дэбатаў, то яна заключаецца ў наступным. Ініцыятары будаўніцтва АЭС, ад імя якіх выступаў Аляксандр Міхалевіч, лічаць гэту крыніцу атрымання электраэнергіі высокаэфектыўнай, параўнальна таннай і бяспечнай. Іх апаненты заклікаюць да разважнасці, абапіраючыся перш за ўсё на страшныя ўрокі Чарнобыля. Прыхільнікі будаўніцтва АЭС апраўдваюць сваю пазіцыю неабходнасцю ўзмацнення энергазабяспечанасці рэспублікі ў разліку на далейшы ўздым эканомікі. Праціўнікі ж абвяргаюць гэты аргумент, даказваючы, што адна АЭС не вырашыць у Беларусі ўсе энергетычныя праблемы, а ляжа цяжкім грузам на бюджэт, бо на яе будаўніцтва на працягу прыкладна дзесяці гадоў прыйдзецца выкладваць у сярэднім па 500 мільёнаў долараў у год. Да таго ж, лічаць яны, трэба больш інтэнсіўна развіваць тэхналогіі выкарыстання альтэрнатыўных крыніц атрымання электраэнергіі.

**Таццяна СМІРНОВА, БелТА.**

### Дожились...

## Правами человека в Беларуси занимается... Министерство здравоохранения

В редакцию "Народной воли" попала ксерокопия приказа министра здравоохранения Игоря Зеленкевича "Об участии в праздновании в Республике Беларусь 50-летия принятия Всеобщей декларации прав человека".

После изучения столь необычного документа, появившегося ни где-нибудь, а в министерстве, первоочередная роль которого — организовывать в стране должную медицинскую службу и помощь, выяснилось: инструкция предписывает начальникам управлений здравоохранения облисполкомов, председателю Комитета по здравоохранению Минского горисполкома, руководителям республиканских учреждений и организаций принять активное участие в реализации плана мероприятий, разработанных Минздравом(!) по празднованию в нашей республике 50-летия принятия Всеобщей декларации прав человека.

Отныне ежеквартально руководители министерства и управлений здравоохранения облисполкомов должны проводить в медучреждениях республики пресс-конференции "по тематике прав человека".

Врачи, пожелавшие повысить свою квалификацию в Белорусском государственном институте усовершенствования врачей, в обязательном порядке должны прослушать лекции по теме "Права человека". Ну а если кто-то из медицинских сотрудников планирует выехать в служебную зарубежную командировку, то прежде должен пройти курс занятий "о состоянии дел в республике в области обеспечения прав человека", чтобы, смею предположить, знать, как отвечать проклятым капиталистам на их "провокационные" вопросы о нарушении прав человека в Беларуси.

Кроме того, на белорусских врачей возлагается еще одна важная задача: "при проведении встреч с иностранными делегациями предусматривать в плане встреч блок вопросов по тематике соблюдения прав человека". Еще бы, пусть знают западные коллеги, как свободно и вольно дышится, говорится и работается белорусским медикам на своей Родине.

После прочтения этого уникального и неповторимого по своему содержанию и сути документа каждый нормальный человек может только воскликнуть: "Неужели такое может быть?!". Оказывается, может. У нас теперь правами человека занимается и Министерство здравоохранения...

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

### Крымінал

## Не пашкадавалі нават каня

У наш складаны і трывожны час ужо не толькі людзям, але і хатнім жывёлам не толькі жывецца дрэнна, але паўсюдна пагражае смяротная небяспека. Не перадаць словамі пачуцці адчаю і разгубленасці жыхара вёскі Кушняты Міёрскага раёна К. Ноччу нейкі нядобразычлівец застрэліў адзінага каня гаспадара. У целе незаменнага памочніка вяскоўца была знойдзена толькі куля калібра 7,62 мм. Мяркуецца па факту гэтага незвычайнага забойства распачаць крымінальную справу. Калі падрабязнасці азначанай начной драмы пакуль не ўстаноўлены, дык дзеянні двух жыхароў Шумілінскага раёна цалкам зразумелыя.

З мэтай лёгкай нажывы гэтыя злачынцы напалі на... карову, якая ціха-спакойна ела траву ў полі. Яны адвялі жывёліну далей ад людскіх вачэй, зарэзалі, злупілі скуру. Мяса парэзалі на кавалкі і склалі ў легкавушку, прадчуваючы добры куш ад продажу свежай ялавічыны. Аднак машыну злодзеяў з нажамі спынілі супрацоўнікі міліцыі, і неўзабаве зламыснікаў чакае зусім іншая ежа на зоне, дзе пра мяса ўдоваль надоўга ім прыйдзецца забыць.

**Уладзімір ШАЙКОЎ.**

### Уточняем

## Во время визита в Беларусь группу латвийский депутатов возглавлял председатель Сейма Альфредс Чепанис

В предыдущем номере "Народной воли" напечатана заметка "Латвийские депутаты хотят видеть Беларусь демократическим государством". К сожалению, в ней допущена неточность. Ошибочно сказано, что в Беларуси находилась делегация латвийского Сейма "во главе с его президентом Крыстс Скуя". Во-первых, следует уточнить, что делегацию депутатов возглавлял председатель Сейма Альфредс Чепанис. А Крыстс Скуя — всего лишь президент одного из акционерных обществ, который во время визита встречался с председателем Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва С.Шарецким.

За допущенную неточность редакция приносит извинения латвийским парламентариям и своим читателям. Одновременно сообщаем, что, по мнению начальника Управления информации Совета Республики Национального собрания А.Крыжановского, визит носил не просто "чисто практический характер", как сказано в заметке, а официальный.

П Р О Д А Е М
ТРАКТОРА МТЗ
ПОГРУЗЧИКИ ТО-18Б
ТРАКТОРА МТ382 МК-01
АВТОГРЕЙДЕРЫ ДЗ-180
Тел.: (017) 211-17-63, 211-17-65, факс 213-23-09.

П Р О Д А Е М
АВТОМОБИЛИ
ГАЗ-3110-341 "Волга"
ГАЗ-33021 "Газель"
ЗИЛ-5301 "Бычок"
МАЗы
Покупаем долговые обязательства энерго- и газовых хозяйств. Возможен бартер на продукты питания и ТНП.
Тел.: (017) 213-23-08, 211-17-65, 211-11-33, факс 213-23-09.

### Позиция

*Василий ШЛЫНДИКОВ:*

## "Выход есть только один: выборы нового президента, смена власти"



*Изгоняя из законодательных структур лучшую часть Верховного Совета Беларуси тринадцатого созыва (еще в то время когда тот парламент был в полном составе), президент Лукашенко, мне кажется, наивно думал, что он обезопасил себя от критики, от людей, которые и опытнее, и профессиональнее, и умнее его. Захватив всю власть, он так и не понял главного — его успех временный. И чем хуже дела в Беларуси, чем глубже кризис, тем больше людей обращают свои взоры не на пустозвонов, а на тех, кто действительно способен вывести страну из "ямы", на профессионалов, с чьими именами ассоциируется надежность и стабильность. Один из таких людей — Василий Михайлович ШЛЫНДИКОВ, отличный организатор и руководитель крупнейшего производства, депутат Верховного Совета.*

*Шлындиков Василий Михайлович родился в 1947 г. в многодетной семье на Гомельщине, белорус. После окончания Белорусского политехнического института работал на Минском государственном подшипниковом заводе. Затем — заведующим промышленно-транспортным отделом Заводского РК КПБ, инструктором Минского обкома партии, директором завода "Ударник", генеральным директором Научно-производственного объединения "Дормаш". После преобразования в 1991 году НПО "Дормаш" в акционерное общество "Амкодор" избирается его руководителем. В 1995 году избирается депутатом Верховного Совета 13-го созыва, возглавляет парламентскую комиссию по экономической политике и реформам. После разгона Верховного Совета возглавляет Ассоциацию содействия экономическому развитию. Он — академик Белорусской инженерно-технологической академии, член Национально-исполнительного комитета, заместитель председателя Объединенной гражданской партии.*

**— Василий Михайлович, давайте откровенно: что заставило Вас, руководителя крупного перспективного машиностроительного объединения, бросить любимое дело и пойти в политику? Вы были прекрасно устроены, хорошо зарабатывали и могли жить на зависть многим...**

— Мой поступок многим не понятен. Но он осмыслен не единожды. Главное, что меня угнетало, это осознание бессмысленности моего труда в условиях гибельной экономической политики. Работать не покладая рук, тратить здоровье, нервы — и все попусту?! И раньше было понимание экономических ошибок правительства СССР, а затем и Беларуси. Но тогда можно было хоть что-то доказать, кого-то переубедить, сделать что-то толковое. Мы много работали, много спорили, искали лучшие, как нам тогда казалось, решения. Приходило понимание того, что в рамках существующей экономической системы улучшить ситуацию в стране крайне трудно, необходимо было менять подходы. Это общее понимание давало надежду на перемены.

Эти надежды окрепли после успехов наших соседей. После того, как стали буквально на глазах преображаться Польша, Прибалтийские республики. Ведь мы часто общались с коллегами из этих стран: видели как они живут, а они — как существуем мы. К большому сожалению, к власти в Беларуси пришли люди, которые не только остановили намечавшиеся положительные процессы в экономике и политике, но и повели людей обратно — в прошлое. Лукашенко и его сообщники, обещая рай, на самом деле тащат республику в страшное болото. Результаты подобной политики я видел своими глазами в некоторых странах. Самый яркий пример — Куба, где мне пришлось побыть. Райский уголок превращен в страну с нищим и обездоленным народом, который пытается спастись от безысходности в соседних Соединенных Штатах Америки. Еще год-два, и мы вернемся к талонам, очередям, каждый будет думать о том, как спастись от голода и холода.

Мне стало ясно: политика, проводимая в Беларуси, ведет страну к нищете и ничему более. Изменить ситуацию можно было, только изменив политику государства. Так я оказался в политике, участвуя в создании Гражданской партии. Победил на выборах в Верховный Совет.

**— Какой Вы видите выход из сегодняшней ситуации — политической и экономической?**

Если говорить о политической ситуации, то мы имеем сегодня авторитарный режим, где власть принадлежит одному человеку, который своими действиями привел Беларусь к международной изоляции, беззаконию, бездумной односторонней ориентации только на Россию — ориентации на отсталость, хаос и нищету.

Что же касается экономики, то здесь традиционно лучше любых слов говорят цифры. А они таковы: в Польше средняя зарплата — 400 долларов США, или примерно 40 миллионов наших "зайчиков", в Литве — 250 долларов США, или где-то 25 миллионов рублей, в Эстонии — 300 долларов, или в пределах 30 миллионов белорусских рублей. Минимальная пенсия в Литве — 100 долларов, или, скажем, десять миллионов рублей. Пусть сравнят наши пенсионеры свою пенсию, а рабочие — свою зарплату с соседями. Еще немного, и наши пенсии и зарплаты будут самыми низкими среди всех стран СНГ. И не нужно лукашенковским агитаторам вешать людям лапшу на уши, утверждая, что, мол, в соседних странах жилье дорогое, медобслуживание платное. По соседству с Беларусью находится латвийский город Даугавпилс. Так вот, в нем квартиры продаются вдвое дешевле, чем, например, в Витебске. А что касается многих платных услуг, то они у нас также недешевы.

Какой выход у Беларуси из кризисной ситуации? Выход один — выборы нового президента, смена власти. Александр Григорьевич не сможет изменить свой тупиковый политический и экономический курс — отсутствует понимание ситуации. Это еще можно было сделать до разгона Верховного Совета. Тогда у него еще был шанс, но он его сам перечеркнул.

(Окончание на 2-й стр.)

